

*Адкрыццё выстаўкі адбылося з усімі цырымоніямі...*

# НА ВАРШАЎСКАЙ...

Шматлюдна было вечарам 20 лістапада г.г. у будынку ГП БГКТ: пасля доўгага перапынку, выкліканага рамонтам, узнаўляў сваю клубную дзейнасць гарадскі аддзел. Для такой працы ў яго цяпер дасканалыя ўмовы. Адрамантаваная канцэртная зала з новым паркетам і прыгожымі крэсламі стварае ўтульны настрой. Побач новая выставачная зала: хоць невялікая памерамі, але дае шырокія магчымасці для дэманстрацыі розных выставак. Клубная зала таксама прыцягвае свежасцю не толькі сцен і паркетаў, але і абсталявання. Між іншым, унушальна выглядаюць зашклёныя бібліятэчныя паліцы. Цяпер па кніжку не трэба будзе бегаць на гару (як было раней), і будзе яна на вачах ва ўсіх.

І добра адчувалі тут сябе ўсе, хто ў гэты вечар прыйшоў на Варшаўскую. А было народу многа: усе месцы канцэртнай залы былі заняты. Беластаччане горача апладзіравалі бельскаму хору, які прыехаў на гасціннае выступленне. Выразна ён падцягнуўся, слухаеш яго з прыемнасцю. Радуюць «старыкі», што спяваюць у хоры ад яго заснавання. Гэта сапраўдныя сябры песні. Маладое папаўненне таксама добрае.

Карыснае ўражанне зрабіла і «Лявоніха», якая па шматлікіх рэарганізацыях не разгубілася ў пошуках. Імкнецца яна стварыць свой уласны стыль. І гэта дарога правільная. Спрачацца тут можна толькі пра яе праграмны бок. Але сардэчныя адносіны публікі, якія спадарожнічалі амаль кожнаму нумару праграмы «Лявоніхі», настройваюць аптымістычна.

Выставачная зала пачала сваю гісторыю з адкрыцця выстаўкі «Беларуская народная вышыўка», якое адбылося з усімі стасаванымі ў такіх выпадках цырымоніямі. Вышыўка багатая і арыгінальная: выклікала шырокае зацікаўленне.

Да новых сустрэч! Лістападаўскі вечар на Варшаўскай паказаў, што могуць быць яны цікавымі.

*Рыгляс*



*Да новых сустрэч!.. (сакратар гарадскога аддзела Зося Стаськевіч (на здымку) аб'явіла, што будуць яны адбывацца пад загалоўкам «Вечарынка ў нашым клубе»).*

*Фота Цаф — Сянько*



*Беларуская народная вышыўка выклікала шырокае зацікаўленне...*



*Бельскі хор выразна падцягнуўся...*



*Усе месцы канцэртнай залы былі заняты...*

# ПАСЛЯ ЎРОКАЎ

З ЖЫЦЦЯ ШКОЛЫ

Школа ў сяле — гэта адзінае месца, дзе школьнікі могуць культурна правесці свой вольны час і заняцца карыснымі для іх справамі. З належным зразуменнем аднесліся да ролі арганізатараў пазакласных заняткаў настаўнікі пачатковай школы ў Рагачах Сямяціцкага павету. Тут вучні маюць магчымасць

У МУЗЫЧНЫМ КАЛЕКТЫВЕ

навучыцца іграць на мандалінах. Вядзе калектыў настаўнік Сцяпан Тыкаловіч. Пад яго кіраўніцтвам займаецца 20 вучняў. Школа паклапацілася пра інструменты. Набыла 10 іх за свае грошы, 4 пазычыла ў суседняй школе ў Валках, некалькі інструментаў перадаў школе ў карыстанне сямяціцкі аддзел БГКТ. Калектыў працуе ўжо 4 гады. Задаволены з яго заняткаў і школьнікі, і бацькі. У мінулым, напрыклад, годзе ён іграў на ўсіх школьных урачыстасцях. У гэтым годзе мандалісты іграюць ужо ў суправаджэнні акардэона. Свае вакальныя здольнасці рагачоўскія школьнікі выяўляюць

У ШКОЛЬНЫМ ХОРЫ

Спявае ў ім 23 асобы пад кіраўніцтвам настаўніцы Малгажаты Манцюк. Хор працуе ўжо 7 год. Прымаў ён удзел у павятовым конкурсе школьных хораў і заняў у ім добрае месца. Ніводная ўрачыстасць не адбываецца ў школе без удзелу хору. У яго праграме ёсць заўсёды некалькі беларускіх песень. Хор спрабуе таксама выступаць з фальклорнымі творамі са свае мясцовасці. Гэтыя спробы сустрэліся ахвотна прыхільна бацькамі, і харысты вырашылі свае спробы пашыраць. Прыхільнікі мастацкай літаратуры займаюцца

Ў ГУРТКУ ЛЮБІЦЕЛЯЎ КНІГІ,

які вядзе настаўніца Данута Тыкаловіч. У гуртку працуе 25 асоб. Яны пазнаюць таямніцы працы ў бібліятэцы, а яна тут немалая — каля 3 500 тамоў. Дапамагаюць школьнаму бібліятэкару апрацоўваць і кансерваваць кнігі, устаўляць іх адпаведна на паліцах, рабіць выстаўкі навінак і, зразумела, пазычаць кнігі чытачам. Гурток арганізуе вечарыны бліжэйшага азнаямлення з аўтарамі кніг, а ў гэтым годзе мае ў плане цікавае мерапрыемства — «Сустрэчу з цікавымі кнігамі», якая будзе звязана і з чытальніцкім конкурсам, і з літаратурнай віктарынай. Тыя ж, хто цікавіцца таямніцамі прыроды, наведваюць заняткі

Ў БІЯЛАГІЧНЫМ ГУРТКУ

і там пад кіраўніцтвам настаўніцы Галіны Разенкранц восенню і вясной вырошчваюць у школьным агародзе гародніну і кветкі, а ў зімовы час вучацца карыстацца мікраскопам, чытаюць прыродазнаўчыя кнігі, гадуюць у школьным жывым кутку расліны і жывёл, рыхтуюць прэпараты і дапаможнікі на заняткі па біялогіі.

Апрача гэтых гурткоў, у рагачоўскай школе дзейнічаюць СКС, ЗГП, ПЦК і іншыя арганізацыі. (мг)

## ШЛЯХІ СПАЛУЧЭННЯЎ

Чым як чым, але добрымі шасейнымі дарогамі Беласточчына можа пахваліцца. Куды б не выехаў па шашы, дык яна гладкая, як стол. Значна горш выглядае справа з колькасцю цвёрдых дарог. Яшчэ іх малавата. На 100 квадратных кіламетраў цвёрдых дарог налічваецца ў Беластоцкім ваяводстве 26 км, а гэта значыць, што паказальнік гэты на 12 км ніжэйшы ад сярэдняга ў нашай краіне.

Гэтак сама прадстаўляецца справа і з чыгуначнымі лініямі. На Беласточчыне на 100 км² маем 4,4 чыгуначных дарог, у той час як сярэдні паказальнік у краіне складае 7,5 км чыгункі на 100 км². (мх)

## «НІВЫ» НАЙБОЛЬШ

Паштовая ўстанова ў Дубічах Царкоўных, Гайнаўскага павету, сярод усіх падпісак (767) мае найбольш падпісак на беларускі тыднёвік «Ніву» (153). Наступныя месцы па чарзе займаюць: «Аграхімія» — 117, «Газета Беластоцкая» — 52, «Хлопска Дрога» — 42 і «Зялёны Штандар» — 21. (яц)

1

## БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ"

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

### НАД ВОЗЕРАМ

*Сонца ціха скацілася з горкі;*
*Месяц белы заплаканы свеціць,*
*Аглядае бахматыя зоркі,*
*Цягне з возера срэбныя сеці.*

*У іх русалкі заблуталі косы, —*
*Рвуць і блутаюць срэбныя ніці;*
*Ноч плыве над зямлёй, сее росы,*
*Ноч шапоча русалкам: «Засніце».*
*(1909)*

### СТРАЦІМ-ЛЕБЕДЗЬ

Не анёл у трубу ўструбіў —
З хмары бог старому Ною гаварыў:
«Поўна з краем чаша гневу майго
На людскія грахі ды бясчыннасці.
Вось надойдзе часіна суровая,

2

Лінуць з неба залівы бязмерныя
І абмыюць ад бруду смуроднага
Ўсю зямлю яны, белы-вольны свет».

Пачынаў тут Ной будаваць каўчэг
З таго дзерава ліванскага.
Ўшыркі гэтаму каўчэгу — сто лакцёў,
А ўдаўжкі — болей тысячы.
Ды узяў туды Ной і птах і звяроў,
Каб не звёўся іх род з зямлі.
Ды не плыў к яму з мора сіняга
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Яго звычаі — арліныя,
Яго ўцехі — сакаліныя;
Пер'і-пер'ечкі бялеюцца
Ды на золаку агнявеюцца.
У яго ў крыле — трыста тры пяры:
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — як мяцель гудзіць.
Як учнуць дажджы, — пацякла вада,
Разлілася горш ад павадкі.
Затапіла ўсе лугі-лагі,
Ўсе лугі-лагі, ўсе лясы-бары;
Уздымаецца вышэй ад гор.
Птахі ў небе стаяй лётаюць,
Енчаць жаласна, ад нуды крычаць,
Выглядаюць стуль прытулачку.

3

А па ўсёй зямлі толькі хвалі б'юць,
Толькі хвалі б'юць белай пенаю.
Ды па іх дужы, смелы плавае
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — як мяцель гудзіць.
І населі тут на лебедзя
Птахі дробныя ўсёй стаяю.
Лебедзь з сілы выбіваецца,
Птушкі ажна усцяшаюцца.
Дзень ён плавае, другі-трэці дзень,
На чацвёрты стаў прасіць-маліць:
«Вы ўзляціце хоць на час які,
Выбіваюся з астатніх сіл.
Дайце вы грудзям, гэй, вальней ўздыхнуць!
Дайце вы крылам, гэй, шырэй узмахнуць!»

Не паслухалі птахі лебедзя.
Пацямнела у яго ў вачах,
Крыллі ўрэшце падламаліся,
Галава ў ваду апусцілася.
І пайшоў на дно мора сіняга
Страцім-лебедзь — моцны, горды птах.

Ад усіх цяпер патомкі ёсць,
Ды няма адных — Страцімавых.

(1916)

Пачатак на стар. 1

## Ёсць добрыя перспектывы

скай зямлі мецъ не будзе, нават спадзяецца некалькі дзесяткаў тысяч чыстага даходу з яе. Гэтыя вынікі акрылілі гуртkоўцаў і асабліва Аляксея Дзярманскага — маладога энергічнага механіка, які пакінуў працу ў беластоцкім ПКС-е і вярнуўся ў роднае сяло апрацоўваць машынамі зямлю.

Парадавалі яны і кіраўніка гаспадаркі Аляксея Яроцкага — выхаванка сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах. Нават бульба ў гуртку, пасаджаная без гною, а толькі на штучных угнаеннях, у многіх месцах была лепшая, чым на суседніх сялянскіх палетках. Паявіліся планы заснаваць у гуртку ферму авечак. Надта ж надаюцца да гэтага некаторыя месцы фондаўскай зямлі. Неабходна зараз жа, не адкладаючы, будаваць гаражы і майстэрню для машыннага парка гуртка. Бо дагэтуль машыны стаяць пад голым небам, а з кожным, нават дробным, рамонтам трэба гнацца пару дзесяткаў кіламетраў у ПОМ у Міхалова. Неабходна... Так, неабходных спраў у свіслачанскім гуртку многа. Павятовы саюз сельскагаспадарчых гурткоў у Беластоку павінен дапамагчы свіслачанам, павінен падтрымаць іх гаспадарскую ініцыятыву і канкрэтнымі капіталаўкладаннямі забяспечыць іх добры пачын. А перспектывы належнай гаспадаркі і добрых ураджаяў там ёсць, бо працуюць у гуртку ахвярныя і гаспадарныя людзі.

*М. Снарскі*

### «АННА КАРЭНІНА» НА ВЁСЦЫ

Вялікай папулярнасцю карыстаюцца на Гайнаўшчыне савецкія кінафільмы «Анна Карэніна» і «Мы з Кранштаду». Дэманстрацыю савецкіх кінафільмаў на вёсках арганізуе гайнаўскі аддзел БГКТ. Дагэтуль савецкія кінафільмы глядзелі жыхары Ляшукоў, Семяноўкі, Лукі, Альхоўкі і іншых. Усюды глядзець савецкія кінафільмы прыходзіць многа людзей. (яц)

### СВЕЦЯЦЬ ВЕЧАРАМ І ДНЁМ

У Гарадку вулічнае асвятленне выкарыстоўваецца не толькі вечарам і ноччу. Электралямпачкі часамі свецяць нават днём. Здарэнне такое мела месца 8 кастрычніка г.г. Дзіўным тады здаецца, чаму ГРН у Гарадку выказвае яўнае супраціўленне да агульнадзяржаўных заклікаў адносна ашчаднасці электраэнергіі. А можа гэтыя заклікі ГРН у Гарадку не абавязваюць? (яц)

## ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

### ЯК СЦВЯРДЖАЕЦЦА НАБЫЦЦЁ ЎЛАСНАСЦІ

Аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва прэзідыума павятовай рады нарадовай сцвярджае набыццё ўласнасці праз самастойнага ўладальніка, а таксама пастанаўляе аб перадачы на ўласнасць нерухомай маёмасці ўладальніку. які дагэтуль зямлю арандаваў або іншым спосабам за згодай яе ўласніка карыстаўся ёю.

У сваёй пастанове, званай «дэцызія». прэзідыум устанаўляе абшар нерухомай маёмасці, высокасць і ўмовы сплат, або звальняе ад абавязку сплаты. Сплаты могуць быць разложаны на раты, пры гэтым тэрмін сплат не можа быць даўжэйшы чым 10 год.

У выпадку асабліва заблытаным або спорным прэзідыум можа перадаць справу павятовай камісіі да спраў «увлашчэння». Рада Міністраў выдасць асобае распараджэнне, у якім установіць арганізацыю, склад і прынцып дзейнасці гэтых камісіяў.

Ад дэцызіі павятовай рады нарадовай або павятовай камісіі да спраў «увлашчэння» прыслугоўвае права адклікацца да ваяводскай камісіі да спраў «увлашчэння». Дэцызія ваяводскай камісіі з'яўляецца канчатковай.

Зацікаўленыя асобы павінны звяртацца ў прэзідыум павятовай рады нарадовай — аддзел сельскай гаспадаркі і лясніцтва, а ў гарадах, якія з'яўляюцца павятовымі, у прэзідыум грамадскай рады нарадовай. Аднак прэзідыум можа весці гэткую справу і без прапановы зацікаўленых.

Аплат за вядзенне гэткай справы не бяруць.

Судовыя справы, у якіх прадметам спору з'яўляецца нерухомая маёмасць. якая падлягае закону аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак, спыняюцца, а суды паведамляюць аб гэтым адпаведнаму прэзідыуму, які павінен, не чакаючы прапановы зацікаўленых, вырашыць справу. Калі прэзідыум вырашыць, што набыццё ўласнасці на аснове гэтага закону не наступіла, па прапанове зацікаўленага суд пачне судовы працэс нанава.

Дэцызія, якая сцвярджае набыццё ўласнасці, з'яўляецца дакументам, які з'яўляецца доказам права ўласнасці, і на аснове яго можна быць упісаным у гіпатэку і эвідэнцыю зямлі.

Каб запабегчы ў будучыні нелегальнаму абароту зямлі, закон абавязвае бюро грамадскіх рад паведамляць павятовым радам нарадовым аб усялякіх зменах ва ўладанні зямлёй.

Калі хто возьме ва ўладанне нерухомую маёмасць на аснове ўмовы, не заключанай у форме натарыяльнай, прэзідыум павятовай рады вызначыць трохмесячны тэрмін да заключэння натарыяльнай умовы, або да звароту зямлі ўласніку. Прэзідыум пасля ўплыву гэтага тэрміну можа прымяніць штраф, а калі і гэта не паможа, дзяржава можа пераняць маёмасць на сваю ўласнасць, пры гэтым заплаціць уласніку палавіну цаны, прадбачанай пры продажы дзяржаўных нерухомых маёмасцей.

*В. Склубоўскі*

## У гонар VI з'езду

### РАБОЧЫЯ З ЛЯЎКОВА

Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі рабочы калектыў керамічнага прадпрыемства са Старога Ляўкова, ушаноўваючы VI з'езд ПАРП, прыняў на сябе наступныя абавязацельствы:

а) пабудаваць спажывецкі кіёск, б) адрамантаваць памяшканне для варэння і спажывання супу, в) выпрадукаваць дадаткова 25 тысяч штук цэглы. Вартасць абавязацельства каля 2.500 тыс. зл.

### ЧЫГУНАЧНІКІ ЧАРЭМХІ

Чыгуначныя рабочыя абавязаліся грамадскім чынам змантаваць новы чыгуначны. раз'езд. Рабочыя ваганоўні зробяць касацыю трох таварных вагонаў. Энергетычны аддзел абсталюе святло на адным з пераездаў.

### ПОМ-Ы

У вольных ад працы днях калектыў ПОМ-у ў Нарве правядзе рамонт 5 трактараў і 5 самаходаў. ПОМ у Кляшчэлях прывядзе ў парадак будынак на сталовую, а таксама абавязаўся перавыканаць прадукцыйны план на 1800 тыс. зл.

### ГС У БЕЛАВЕЖЫ

Белавежскі ГС прыняў абавязацельства пабудаваць склад для разлеўні газіраванай вады. Вартасць абавязацельства — 25 тыс. зл.

### ЗМВ У АНЦУТАХ

Гурток ЗМВ у Анцутах грамадскім чынам рамантуе пакінуты будынак, які будзе дастасаваны да патрэб святліцы. Ужо ўложана там падлога і абабіты сцены пільснёвымі плытамі.

### ЗМВ У КЛЕЙНІКАХ

Члены гуртка ЗМВ у Клейніках праводзяць таксама рамонт святліцы. Ужо дзяўчаты і юнакі працавалі пры ёй 147 гадзін. Навазілі яны жвіру пад сходы, наладзілі плот і зрабілі асвятленне пры ганку. (мх)

### АГЛЯДЫ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ І ДРАМГУРТКОЎ



*Ніна Стрэльчук, Лявон Панасюк і Аляксандр Стрэльчук (усе з Вілінава) на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 71» у Беластоку.*

*Фота Цаф — Сянько*

Да дзесяткаў асоб — нашых дзеячоў, артыстаў-аматараў выслалі мы два пытанні: ці прымуць яны ўдзел у аглядзе ў 1972 годзе і з якім рэпертуарам.

Першыя адказы мы ўжо апублікавалі, а вось наступныя.

*Ніна Стрэльчук, Вілянова, Сямяціцкі павет.*

«Дарагая рэдакцыя! Дзякую за памяць. Адкажу на вашы пытанні: удзел у аглядзе «Беларуская песня 1972» прыму. Хачу выканаць песні: «Колькі ў небе звёзд» і «Ручнікі».

*І. Меляховіч, Слоя, Сакольскі павет.*

«Дарагая рэдакцыя! Адкажам на вашы пытанні, але найперш перапрашаем за доўгае маўчанне. Надумваліся, які даць адказ. І вырашылі — прыняць удзел у аглядзе драмгурткоў. Не маем толькі пакуль ніякай п'есы. А мо дзе ў Беластоку заваляласяr? Жадаем поспехаў у працы».

## Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### УСПАМІНЫ, ДЗЁННІКІ, ЗАПІСЫ. ЧАСТКА II.

Фёдар Еўлашэўскі. «Дзённік» Еўлашэўскага доўгі час заставаўся ў рукапісе. Быў ён выдадзены ў 1886 годзе ў Кіеве В. Антановічам у XIX томе «Кіеўскай старыны». Раней аднак быў перакладзены на польскую мову Яўгеніюшам Цямнеўскім і выдадзены ў 1860 годзе.

Змест «Дзённіка» можна падзяліць на некалькі тэматычных праслоек:

а) тагачасныя палітычныя падзеі,
б) постаць выдатных тагачасных дзеячоў,
в) юрыдычныя і судовыя справы,
г) рэлігійныя і грамадскія праблемы,
д) сямейнае жыццё.

Зразумела, што тут зоймемся характарыстыкай толькі некаторых з праблем, прадстаўленых у цікавым творы Еўлашэўскага.

Еўлашэўскі быў, несумненна, добра асвядомлены ў галіне тагачасных палітычных падзей. Паказ гэтых падзей не трактаваў аднак як галоўную мэту свайго твора. Нягледзячы на гэта, палітычная праблематыка з'яўляецца частым госцем на старонках яго твора. Паказвае Еўлашэўскі не толькі палітычныя падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім, але таксама і ў Польшчы. Нярэдка адклікаецца да канфліктавых адносін паміж Польшчай і Расіяй. Якую пазіцыю займае аўтар пры насвятленні гэтага канфлікту? Няма сумненняў, што ён чалавек больш спрыючы Польшчы, чым Расіі. Няма ў ім аднак прадузятасці ці крайняй аднабаковасці. І следу не знойдзем у яго творы праяваў шавінізму. Еўлашэўскі лічыў сваім абавязкам аб'ектыўна прадставіць падзеі, уласная ацэнка не іграе тут больш істотнай ролі. Сваім аб'ектывістычным назіральніцтвам «Дзённік» нагадвае «Баркалабаўскую хроніку».

Пры ўсім сваім аб'ектывізме адчуваецца гордасць Еўлашэўскага як грамадзяніна Вялікага княства Літоўскага. З многіх месцаў і фактаў «Дзённіка» бачым, што Еўлашэўскі цвёрда стаіць на мясцовым грунце, і што яму прыемна, калі нехта з беларусаў выбіваўся, калі займаў высокую пазіцыю ў Вялікім княстве Літоўскім, ці ў Рэчыпаспалітай Польшчы.

У «Дзённіку» гаворыць Еўлашэўскі і аб Люблінскай уніі, і аб Брэсцкай уніі, і аб польска-рускай вайне (1579—1581) і аб перыядзе бескаралеўя ў Польшчы, і аб польскіх сеймах.

Няма акрэсленай сістэмы ў характарыстыцы гэтых фактаў. Наадварот, выступае тут і выпадковасць, і непаслядоўнасць. Нягледзячы на гэта, у суме паказ гістарычных падзей уяўляе цікавую і каларытную карціну.

Нямала месца ў «Дзённіку» прысвяціў Еўлашэўскі выдатным тагачасным грамадскім і палітычным дзеячам. Галерэя гэтых постацей вялікая. Бачым тут польскіх каралёў: Сігізмунда II Аўгуста, і Стэфана Баторыя, і Сігізмунда III Вазу, і літоўска-беларускіх князёў Хадкевіча і Радзівіла, і дзесяткі менш вядомых вяльмож або прадстаўнікоў шляхты.

Няма сумненняў, што Еўлашэўскі лічыў феадальную сістэму вечнай, нязменнай. Мабыць, яму і ў галаву не прыходзіла, што народ падніме калікольвек руку на старую сістэму і яе прадстаўнікоў. Еўлашэўскі лічыў за вялікі гонар сваю добрасумленную службу і каралям, і вяльможам. З гордасцю гаворыць ён, што даводзілася яму ўдзельнічаць у каралеўскіх аўдыенцыях або прадстаўляць розныя справы ў каралеўскім судзе: «Не мала справ судовых мел пред каралём яго мілостью».

З асаблівым вернападданчым пачуццём гаворыць Еўлашэўскі аб Хадкевічу і Радзівілах. Захапленне, бескрытыцызм, сервілізм — вось рысы адносін Еўлашэўскага да вяльмож. Пісьменнік шчаслівы, што не было ніколі канфліктаў паміж ім і князямі, што князі даручалі яму важныя справы, што верылі яму, што лічылі яго адданым чалавекам.

З асаблівым культам адносіўся Еўлашэўскі да Радзівіла, якому шчыра і з адданнем служыў на працягу трыццаці гадоў. Не мала цяплыні і шчырага захаплення ўлажыў Еўлашэўскі ў партрэт княгіні Аляксандры Крошынскай, якая была жанчынай выключна «шляхетнай, прыгожай, богабойнай і добрай».

Усё гэта не значыць, што аўтар бескрытычна адносіўся да ўсяго шляхецкага асяроддзя. Служачы на працягу многіх гадоў у судовай установе, меў магчымасць пазнаць сварлівасць, задзёрнасць, ганарыстасць і эгаізм шляхты. Не раз гаворыць Еўлашэўскі аб гэтых склоннасцях шляхціцаў і пры нагодзе характарыстыкі шляхецкіх сеймаў і звязанага з імі «ліберум вета», і пры нагодзе розных драматычных па-

Пачатак на стар. 1

# Неўміручы талент

месца загінуўшага мастака з народу «выйдуць дзесяткі новых музыкаў і граннем сваім будуць будзіць людзей к свету, праўдзе, брацтву і свабодзе».

На сям'ю Багдановічаў падае новае гора. У 1908 годзе памірае на сухоты старэйшы брат паэта Вадзім, а праз год гэтая ж страшная ў той час хвароба



*Бацька Максіма Багдановіча — Адам Ягоравіч Багдановіч. 1923 г.*

паяўляецца і ў самога паэта. Бацька спрабуе ратаваць сына і вязе яго на лячэнне ў Ялту (Крым). Тут ён піша свой першы верш «Я, бальны, бесскрыдлаты паэт», у які ўклаў такія вось балючыя радкі:

«Мо жыцця майго верш ужо спет, —
Дык няхай Вам хоць песня гавора,
Як бальны, бесскрыдлаты паэт
На гадзіну забыў сваё гора».

Пасля вяртання ў Яраслаўль, куды Багдановічы пераехалі пасля смерці Вадзіма, Максім вучыцца ў апошнім класе Яраслаўскай гімназіі, многа піша, заглыбляецца ў вывучэнне літаратур еўрапейскіх народаў і рыхтуецца да паступлення ў Пецярбургскі універсітэт на філалагічны факультэт. Ён марыў аб прысвячэнні сябе беларусазнаўству, але стан здароўя і матэрыяльныя цяжкасці не дазволілі на здзяйсненне намераў паэта.

Пасля заканчэння ў 1911 годзе гімназіі Максім Багдановіч прыязджае ў Беларусь. Наведвае рэдакцыю «Нашай Нівы» ў Вільні, віленскія музеі, едзе на Міншчыну. У выніку гэтай сустрэчы паэта з радзімай яго авалодвае нястрымнае жаданне прысвяціць усяго сябе літаратурнай творчасці на роднай ніве.

Вярнуўшыся ў Яраслаўль, ён паступае ў юрыдычны ліцэй, але ўвесь свой вольны ад заняткаў час прысвячае літаратуры. Піша цыклы вершаў «Старая Беларусь», «Места», «Усмешкі» і шэраг іншых вершаў. У той жа час ён піша артыкулы аб тагачасным стане беларускай літаратуры, змяшчае пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў і артыкулы пра беларускую літаратуру ў рускіх часопісах.

У 1913 годзе выходзіць у Вільні першы і апошні пры жыцці аўтара зборнік вершаў Максіма Багдановіча «Вянок». Яго творы штораз часцей паяўляюцца ў перакладах на рускую, украінскую, чэшскую мовы. Ю. Вяжынскі пераклад верша М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі» на польскую мову змяшчае ў вераснёўскім нумары часопіса «Весь ілюстрована» за 1913 год. Радасць паэта, выкліканую творчымі ўдачамі, зацьміў новы цяжкі прыступ сухоты. Але ён не паддаецца. Падлячыўшыся, зноў настойліва працуе над новымі сваімі вершамі, артыкуламі, перакладамі.

У 1916 годзе М. Багдановіч заканчвае ліцэй і прыязджае ў Мінск. Паступае тут на працу ў Губернскім харчовым камітэце, а ўвесь свой вольны час прысвячае літаратурнай дзейнасці. Тут, жывучы на кватэры разам з беларускім пісьменнікам Змітраком Бядулем, ён піша шэраг артыкулаў і два свае несамавітыя вершы «Страцім-лебедзь», у якім выказаў свой боль, выкліканы прадчуваннем хуткай смерці, і «Пагоню», дзе кінуў праклён усім здраднікам роднага краю і бацькоўскай мовы.

Але стан здароўя няўхільна пагаршаўся. За парадай таварышаў Максім Багдановіч у лютым 1917 года едзе на лячэнне ў Ялту. І там, у ціхай самоце, «у белым доме, ля сіняй бухты» 25 мая 1917 года паэт памірае.

Каля яго пасцелі былі знойдзены накіды новых вершаў і старонкі беларускага буквара, які Максім Багдановіч пісаў яшчэ і ў апошнія гадзіны свайго жыцця з надзеяй, што па гэтай кнізе будзе вучыцца маладое пакаленне беларусаў сваёй роднай мове.



*Маці Максіма Багдановіча — Марыя Апанасаўна. 1896 г.*

Беларускі народ свята захоўвае ў памяці вобраз свайго вялікага паэта. Дзесяткі выданняў яго твораў разышліся па Беларусі і іншых краінах. Многія яго вершы пакладзены кампазітарамі на музыку. Мастакі ўвекавечылі яго вобраз у шматлікіх карцінах і скульптурах. Паэты прысвяцілі яму свае лепшыя вершы.

*Мікалай Гайдук*



*Дом, у якім нарадзіўся Максім Багдановіч.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### РЫХТУЕМСЯ ДА СВЯТ

Кожная гаспадыня імкнецца неяк падрыхтавацца да свят, калі нават і не склікае ў хату шмат гасцей. Вядома ж, будзе некалькі вольных ад працы дзён, нешта ж трэба есці.

Дрэнна робяць тыя гаспадыні, якія пачынаюць рыхтавацца ў апошнія дні перад святам. Патрапяць не спаць нават ноччу. І які вынік? Прыходзяць святы, а ў гаспадыні клеяцца вочы, не ў стане яна гаварыць і весяліцца разам са сваімі гасцямі. А ці ж госці прыходзяць, каб толькі паесці? Свята ж — гэта дасканалая аказія, каб сустрэцца, пагаварыць, прыемна правесці час.

Дык ад усяго сэрца раім нашым чытачкам разумна разлажыць чакаючую іх працу. Вялікае пранне і генеральную ўборку варта зрабіць тыдні за два да свят, а дзён за 10 да Каляд пачаць памкрысе рыхтаваць патравы на святочны стол.

Можна, напрыклад, падрыхтаваць раней мак, які пазней напэўна прыдасца да пірагоў ці легуміны. Мак трэба запарыць кіпятком, на наступны дзень адцадзіць на сіце і змалоць у мясарубцы 3 разы (калі няма спецыяльнай машынкі да маку). Змелены мак злажыць шчыльна ў слоік і схаваць у халоднае месца.

Беручы пасля мак на пірагі, кладзем яго ў гарачы сіроп, падрыхтаваны з такой самай колькасці цукру, як і маку. Сіроп, закіпеўшы «да ніткі», разам з макам адстаўляем з агню, дадаем якінебудзь арамат, крыху пасечаных лясных арэхаў, разынак, апельсіннай скуркі. Такі мак вельмі добра захоўвае ў цесце вільгаць.

Можна падрыхтаваць таксама шмат раней добрыя селядцы. Трэба іх спачатку 24 гадзіны вымачваць, пасля зняць скурку і выняць косці, нарэзаць на кавалкі. Селядцы спырснуць лімонным сокам або добрым вінным воцатам, злажыць іх у слоік, перасыпаючы зярнятамі перцу, ядлоўца, англійскага зелля і лаўровымі лісткамі, пасля заліць усё алеем, закрыць слоік і паставіць у халоднае месца.

На многа раней можна зрабіць і паштэт (неабавязкова з зайца). Трэба ўзяць: 1 кг свініны, 1/2 кг цяляціны, 1/2 вяндзонага бочку (грудзінкі), 1/2 кг свіной пячонкі. Акрамя таго: 1 селер, 2 вялікія цыбуліны, 3—4 сушоныя грыбкі, 3 яечкі, соль, перац, лісток.

Мяса і бочак (акрамя пячонкі) кладзем у каструлю разам з прыправамі, парэзанай на чвэрткі цыбуляй і грыбкамі, заліваем усё вадой так, каб толькі прыкрыць мяса, і варым, пакуль мяса не стане зусім мяккае. Пасля дадаем пячонку і тушым яшчэ з паўгадзіны. Як мяса астыне, разы 2 прапускаем усё разам праз мясарубку, запраўляем, кладзем ізноў у каструлю, даліваем крыху працэджанага вывару з мяса і моцна падаграваем, пасля чаго ўбіваем у масу яечкі і хутка размешваем драўлянай лыжкай. Складаем паштэт у падагрэтыя слоікі. Слоікі закрываем і ставім у халоднае месца.

*Гаспадыня*

ГЮНТЭР ЛЕЙС




— ...Я і не падазравала, — гаворыць мне Эльза, — што ён будуе пякельную машыну. Але я адчувала, што нешта мучыла яго ў 1939 годзе. Я здзівілася, калі ён, вопытны чырвонадрэўшчык, нечакана ўладкаваўся на нейкую выпадковую работу ў каменяломні.

Толькі ў гестапа даведалася Эльза, што задумаў Георг. Яна не ведала, чаго ён паехаў у Мюнхен тым летам. Некаторы час ад яго не было вестак, потым прыйшло пісьмо, у якім ён прасіў сустрэцца ў Штутгарце ў пачатку лістапада. У яго там жыла сястра, і ён хацеў пакінуць у яе доме нейкія свае рэчы.

Я ведаў, што ён пакінуў кватэру фрау Леман 31 кастрычніка. Да сустрэчы ў Бюргербрау заставалася восем дзён. Я ўсё думаў, дзе ён быў і што рабіў у тэтыя восем дзён. Цяпер я ведаў: бомба была зроблена і падкладзена. Магчыма, працаваў ужо гадзіннікавы механізм. Яму больш не патрэбны былі яго інструменты і матэрыялы. Неабходна было іх дзесьці пакінуць. Ён сустрэўся з Эльзай у парку Шылера ў Штутгарце, за дзень ці два да выбуху. Георг быў прыкметна ўсхваляваны. Ён пацалаваў Эльзу і сказаў: «Чакай мяне, Эльза. Я не магу табе сказаць пра тое, што задумаў. Калі гэта скончыцца, мы пажэнімся і паедзем адсюль...»

Пасля гэтага яна яшчэ раз бачыла яго ў канцы месяца. Гестапа даставіла яе ў нумар берлінскага атэля «Кайзерхоф». Прывялі Эльзера пад канвоем. Твар яго быў жоўты, у сіняках, распухлы. Відаць было, што яго моцна білі.

Гестапаўскія афіцэры пыталіся зноў і зноў, што ён гаварыў Эльзе. Напэўна, яны тады таксама не маглі паверыць, што ён адзін зрабіў усю гэту справу.

Эльзер сцвярджаў: «Я нічога ёй не гаварыў. Я нікому не гаварыў. Я не хацеў нікога ўцягваць». Нарэшце, яго вывезлі, і Эльза ніколі больш яго не бачыла.

Да сярэдзіны 60-х гадоў мне ўсё было больш-менш зразумела. Пакуль усё сходзілася. Не хапала толькі развязкі гэтай гісторыі. Некаторыя даныя я атрымаў ад пагранічнікаў і таможных інспектараў, якія дзяжурылі ў тую лістападаўскую ноч.

У 8.35 у той вечар, роўна за 45 мінут да таго, як з грукатам спыніўся гадзіннікавы механізм, таможныя чыноўнікі Рыгер і Цыперэр схапілі маленькага, бедна апранутага чалавека на школьным участку ў Костанцы. Участак мяжаваў са швейцарскай граніцай. На пытанне, што ён тут робіць, чалавек адказаў, што заблудзіўся. Тлумачэнне было непраўдападобнае, адзначае Цюперэр, бо, каб трапіць на ўчастак, трэба было пералезці цераз плот.

Таможнікі адвялі яго ў бліжэйшую таможню, дзе па гучнагаварыцелю перадавалі прамову Гітлера з піўной залы. Роўна ў 9 гадзін вісклівы голас Гітлера выкрыкнуў: «Партыйныя сатнікі!»

Гітлер закончыў прамову. Было чуваць, як аўдыторыя ўстае.

Усе планы Эльзера, уся работа будавалася на тым, што Гітлер усё яшчэ будзе на трыбуне ў 9.20.

«Зіг хайль!» — выкрыкнуў Гітлер. У зале пачуўся роў у адказ, і пад гукі нацысцкага гімна Гітлер і яго галоўныя памагатыя пакідалі залу.

Эльзер сядзеў, нерухома ўставіўшыся ў адну кропку. Відаць, у гэты момант там, у таможні, ён усвядоміў, што справа яго жыцця праваліласся. Усё было дарэмна. Бомба, будучыня Германіі, сам Георг Эльзер — усё паляцела да д'ябла.

Смяльчак Георг Эльзер і яго грандыёзны план сталі ахвярамі страшэннага нешанцавання. Некалькі прычын (і ўсе непрадбачаныя) прымусілі Гітлера пайсці ў той вечар раней. Ужо ішла вайна, і ў Гітлера было шмат спраў. На наступную раніцу ў яго ў Берліне была назначана адказная сустрэча, і ён збіраўся выехаць у тую ж ноч. Звычайна ён лятаў, але ў тую ноч, як я даведаўся, пілот адгаварыў яго ляцець з-за дрэннага надвор'я. Гітлер згадзіўся паехаць поездам. Таму, каб пакінуць у запасе час, ён прыехаў у піўную раней звычайнага. Заўсёды перад ім гаварылі доўгую ўступную прамову, але ў той вечар прамоўца, які гаварыў уступнае слова, раптам на сярэдзіне запнуўся, забыў тэкст і перадаў слова фюрэру. Усе гэтыя факты ў сваёй сукупнасці прымусілі яго спусціцца з трыбуны і пакінуць залу прыкладна на гадзіну раней.

Уся гэта доўгая работа па збору фактаў пра Эльзера і яго змову, пошуку дзесяткаў людзей, разгадцы лабірынтаў нацысцкай хлусні і пасляваеннай блытаніны працягвалася да канца 60-х гадоў. Па ходу справы я публікаваў матэрыялы пра мае пошукі. І нарэшце ў 1969 годзе гэта здарылася — чытач з Бад-Годэсберга, былы ўрадавы чыноўнік, напісаў мне, што ў яго ёсць аддрукаваны на машынцы экземпляр паказанняў Эльзера на допыце.

Я пазваніў яму неадкладна. Дамовіўся аб сустрэчы і памчаўся да яго. Ён перадаў мне тоўстую папку.

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### ЛЕС — ГАЙНАЎСКАЕ БАГАЦЦЕ

45,3% паверхні Гайнаўскага павету складаюць лясы. У мінулым гаспадарчым годзе з гайнаўскіх лясоў атрымана звыш 180 тысяч кубічных метраў драўніны. Кожны год надлясніцтвы, якія дзейнічаюць у павеце (іх 8), уплачваюць у форме падатку ў бюджэт павету 50 мільёнаў злотых.

Раней вялася празмерная вырубка лесу. Апошнімі гадамі гэты тэмп паменшыўся. Звяртаецца шмат увагі на заляcенне няўжыткаў. У 1970 годзе ў Гайнаўскім павеце было залесена звыш 420 гектараў лясных зрубаў.

Імкненні павятовых улад ідуць у напрамку значнага павелічэння перапрацоўкі сыравіны на месцы. Гэтаму служыць будзе пачатая разбудова і рэканструкцыя драўніннай прамысловасці, пабудаваная ў 1970 годзе мэблевая фабрыка, здадзены ў эксплуатацыю ў бягучым годзе аддзел стружкавых пліт і разбудова завода сухой дэстыляцыі драўніны.

Гэтым праблемам і была прысвечана апошняя сесія ПРН у Гайнаўцы.

*К. Ляшчынскі*

### У БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

10 лістапада г.г. у спартыўным зале нашага ліцэя адбыўся чарговы канцэрт артыстаў варшаўскай філармоніі. Гэтым разам адбываўся ён пад загалоўкам «Польская вакальная музыка ад рэнесансу да сучаснасці». Былі тут выкананы творы такіх кампазітараў, як Вацлава з Шаматул, Каменскага, Манюшкі і Свідра. Канцэрт усім вельмі спадабаўся.

*Янка, Бельскі бел. ліцэй*

### Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Мой знаёмы, які на мяне гневаецца, каб адпомсціць, падаў на мяне ў суд: патрабуе ад мяне 15 тысяч злотых; даказвае, што я іх у яго пазычыў тры гады таму назад. Ён паставіў сведкамі сваіх сябрукоў, з якімі часта праводзіць час у рэстаране, і я пераканаңы, што яны пацвердзяць усё, што ён захоча.

У сапраўднасці я ў яго грошай не пазычаў, ды і сумняваюся, ці меў ён калі ў жыцці 15 тысяч: у яго заробкаў не хапае і да паловы месяца. Як мне бараніцца?

АДКАЗ: Дагаворы, з якіх вынікаюць павіннасці, вартасць якіх перавышае 10 тысяч злотых, павінны быць заключаны ў пісьмовай форме. У гэтым выпадку доказ з паказанняў сведкаў недапушчальны. Таму вам бараніцца лёгка. Скажыце перад судом, што не згаджаецеся на дапытванне сведкаў. Паколькі ваш працаўнік пісьмовых доказаў не мае, яго заяву па прычыне адсутнасці доказаў суд не можа ўзяць пад увагу. Калі вы згодзіцеся, суд можа дапытаць сведкаў.

### РАМОНТ

У вёсцы Тапаркі Гайнаўскага павету нядаўна пачаўся рамонт клуба «Рух». Будынак звонку будзе ашаляваны, у сярэдзіне адрамантуецца столь і падлога. Рамонт праводзяць кваліфікаваныя майстры.

*П. Дубовіч*




*Дарагое Сэрцайка!*

Сябравала я з хлопцам з чужой вёскі, Янкам, аж два гады. Пакахала яго і ён мяне таксама. Усё між намі ўкладалася як найлепш аж да нядаўна. А ўжо вось дзве нядзелі мы не пішам сабе лістаў, не сустракаемся. Я вельмі перажываю, ўсё чакаю і чакаю Янкі. Два тыдні таму назад мы пасварыліся, ды так моцна, што нават цяжка ўявіць мне цяпер, што да такой «сцэны» між намі дайшло. Ён паехаў і вось ужо дзве нядзелі не прыязджае. А мы мелі жаніцца па калядных святах. Таму вось і дагаварыліся мы перад гэтай сваркай з Янкам, што я паеду да яго бацькоў. І мае бацькі згадзіліся на гэта, і бацькі Янкі таксама вельмі хочуць мяне ўбачыць (як будучую нявестку). Я пачала рыхтавацца, гэта значыць, пачала думаць аб новай сукенцы і іншых прыбраннях, бо хачу спадабацца бацькам Янкі. Назбірала грошай, цяпер магла б ужо паехаць у горад і разглянуцца за нечым, але не ведаю, што рабіць: а калі Янка не прыедзе, калі ён увогуле перадумаў? Дык ці патрэбны тады мне гэты выдатак? Другі зноў раз усё думаецца, што аднак Янка прыедзе. А што тады зрабіць, як паступіць, ці ўспамінаць аб нашай сварцы, ці перапрашаць?

Парай, Сэрцайка, буду за гэта табе вельмі ўдзячна.

*Вера*

*Вера!* Напэўна не трэба траціць надзеі, бо сама ж пішаш, што сябравалі вы два гады, што кахалі адзін аднаго. Дык цяжка паверыць, каб адносіны Янкі да цябе адразу змяніліся. Зрэшты, па сабе ведаеш, што не. Ты ўсё чакаеш, напэўна і Янка чакае, толькі ўносіцца трошкі «мужчынскай» амбіцыяй. Да святаў яшчэ трохі часу засталося. Таму раю табе аднак падрыхтавацца да планаванай «гасціны» і чакаць. Калі Янка прыедзе, не варта што-кольвек прыпамінаць з тае сваркі, ані перапрашаць. Найлепш весці сябе так, як бы нічога не здарылася. Гэтага напэўна прагне і Янка, бо нікому ж не будзе прыемна ўспамінаць такія прыкрыя справы.

Мне здаецца, што ўсё будзе добра, чаго і жадаю вам.

*Сэрцайка*

### МАРАЗМ

У грамадзе Дубічы Царкоўныя слаба дзейнічаюць гурткі ЗМВ. Яны амаль зусім не праяўляюць ніякай актыўнасці ў павышэнні культурнага ўзроўню тутэйшай моладзі. У такіх вёсках, як Тапоркі,Ялёнка, Грабавец і Дубічы, не адчуваецца, што ёсць тут моладзь. А ёсць умовы, каб развівалася тут культурная дзейнасць. Нядаўна на партыйным сходзе ў Дубічах Царкоўных члены партыі гаварылі аб гэтым маразме і пастанавілі дапамагчы моладзі наладзіць належную працу. Толькі ў адных Чэхах Арлянскіх ЗМВ дзейнічае актыўна. Вось з гэтага гуртка варта ўзяць прыклад і іншым.

*П. Дубовіч*

### «НІВА» Ў ШКОЛЕ



Вялікай папулярнасцю карыстаецца «Ніва» сярод школьнікаў. У васьмікласнай школе ў Палічнай падпісчыкаў на яе аж 70. Настаўнікі гэтай школы выкарыстоўваюць некаторыя публікацыі «Нівы» і яе дадатак для дзяцей «Зорку» на ўроках беларускай мовы. Пажаданым было б, каб ва ўсіх школах чыталі свой адзіны часопіс у Польшчы на роднай мове, так як гэта робяць у Палічнай.

*Тэкст (мх). Фота В. Бура*

### ТРЭБА ІМ ДАПАМАГЧЫ

Клуб-святліцу ў Тынявічах Малых Гайнаўскага павету вядзе Янка Асташэўскі з жонкай Сафіяй. У клубе парадак і чысціня. Можна тут пачытаць газеты, паглядзець тэлевізар, паслухаць пласцінкі або радыё. Дзякуючы працы актывістак ЗМВ Ірэны Васілюк і Ліды Лесняк існуе тут драмгурток, які ставіць беларускія п'есы. Гэтыя пастаноўкі ахвотна глядзіць мясцовая публіка. Самае галоўнае — тынявіцкая моладзь хоча і праводзіць вольны час культурна. Праўда, наракаюць тут на недахоп музычных інструментаў і грошай: хацелі б купіць акардэон, хацелі б яшчэ лепш паставіць сваю працу. Трэба ім дапамагчы, заслужылі.

Добрая праца тутэйшага клуба — вынік працы не толькі моладзі, але і кіраўніка клуба Янкі Асташэўскага, які шчыра аддаңы моладзі.

*Кастусь Бандарук*

### З ДЗЕЦЬМІ Ў ДАРОГУ



Вясковыя дзеці вельмі любяць ехаць фурманкаю. Калі бацька або маці едзе на кірмаш або з чымнебудзь на пункт скупкі, яны не могуць не прыхіліцца да просьбы (аж да слёз) сваіх дзяцей, якія хочуць ехаць разам. І вось таму часта можна ўбачыць такі абразок, як на нашым здымку, зробленым на пункце скупкі ў Бабіках у Сакольскім павеце.

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

### НОВЫЯ ХОДНІКІ Ў КУРАШАВЕ

У вёсцы Курашава (Гайнаўскі павет) зараз шпаркім тэмпам праходзіць пракладка новых ходнікаў. Брукаршчыкам дапамагаюць жыхары Курашава, якія давозяць на дарогу пясок і ходнікавыя пліты. Дагэтуль пракладзена больш за палавіну ўсіх запланаваных да пабудовы ходнікаў. (яц)




*Анна.* Вельмі дрэнна робіце, што не ідзеце да лекара. Толькі лекар можа вам дапамагчы. І мы ўпэўнены, што пасля лячэння (яно неабходнае), інакш будзеце глядзець на сэнс жыцця.

Я зірнуў на апошнюю старонку, і ў мяне абарвалася сэрца. Гэта быў не першы экземпляр. Імя Эльзера і трох афіцэраў, якія дапытвалі яго, былі надрукаваны ў канцы — Каплер, Шміт, Зібальд — але подпісу не было.

Ці быў гэты дакумент сапраўдным? Я прачытаў яго некалькі разоў. Кожная дробязь сходзілася — кожная дата, кожнае імя, кожная падрабязнасць. Я не сумняваўся, што дакумент сапраўдны.

Даклад пачынаўся з тлумачэння Эльзера сваіх матываў. Ён гаварыў, як відаць, спакойна, абдумана, проста выкладаў тое, што адчуваў. Пэўныя аспекты нацызму адштурхоўвалі, абуралі яго. Ён адзначыў незадаволенасць сярод народа.

Яго таксама непакоіла маючая адбыцца вайна. Ён сказаў, што бачыў яе непазбежнасць яшчэ ў 1938 годзе.

«Я шмат думаў, — сказаў ён, — і прыйшоў да вываду, што становішча ў Германіі можна змяніць, толькі ліквідаваўшы цяперашняе кіраўніцтва... я маю на ўвазе Гітлера, Герынга і Гебельса».

* ※ *

Я працягваў пошукі. Спраў было па горла. Трэба было адшукаць хаця б аднаго з афіцэраў СС, якія бралі паказанні людзей, чые імёны стаялі ў канцы пратакола. Трэба было, каб хаця б адзін з іх пацвердзіў сапраўднасць дакумента і подпісаў. Інакш дакумент быў проста паперкай, якая нічога не варта.

Пошукі гэтых людзей былі доўгія і спачатку безвыніковыя. Аказалася, што адзін з іх памёр. Другі лічыўся прапаўшым без вестак у час вайны дзесьці ў Расіі. Трэці, палкоўнік СС Герберт Каплер, здавалася, быў адзіным, якога можна было хаця б спадзявацца адшукаць.

17 кастрычніка 1969 года мяне правялі ў пакой спаткання ў крэпасці Гэтэ. Герберт Каплер чакаў мяне стоячы. Гэта быў сівы чалавек са шрамам на твары, у светла-шэрым гарнітуры і ў сандалях.

Наша гутарка працягвалася каля трох гадзін. Я паказаў Каплеру пратакол паказанняў Эльзера. Ён прачытаў яго не спяшаючыся, старонку за старонкай. Нарэшце я спытаў, ці можна лічыць яго сапраўдным.

Ён кіўнуў і падпісаў яго. Я гутарыў з дзесяткамі людзей, вязнямі і ахоўнікамі канцэнтрацыйных лагераў. Урэшце я знайшоў Франца Лехнера, які быў у свой час наглядчыкам у Дахау. Ён быў сур'ёзна ранен на рускім фронце зімой 1941/42 года і выйшаў са шпіталя з паралізаванай правай рукой. Яго прызначылі ў Дахау, дзе даверылі зняволеных, якія лічыліся асабліва важнымі. Адным з яго вязняў быў Георг Эльзер.

Надышоў дзень у 1945 годзе, калі амерыканцы стаялі ўсяго за 100 міль ад Дахау, нацызм біўся ў перадсмяротнай агоніі. Да Лехнера прыйшоў канвойны і сказаў: «Эльзера на допыт».

Георга Эльзера павялі. Усё было скончана.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Film z czarującą dziewczyną" (węgierski), 14—15. „Jankes" (szwedzki), 15—17. „Motodrama" (polski), 18—19.

**Нараўка**

„Lucia" (kubański), „Lenin — dokumenty i fakty" (radz.), 15—19.

**Нарва**

„Fraulein doktor" (jugosł.), „Mój pies Wulkan" (radz.), 15—19.

**Чыжы**

„Dziki i swobodny" (angl.), „Okna czasu" (węgierski), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**

„Pogromca zwierząt" (rumuński), „Pan Dodek" (polski), 15—19.

**Арэшкава**

„Pułapka" (polski), „Wahadło" (USA), 18—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Słoń Maruda" (angl.), Chewsburska Ballada" (rumuński), 15—19.

**Орля**

„Pan Wołodyjowski" (polski), 15—19.

**Райск**

„Abel tój brat" (polski), „Che (Opowieść o Guevarze" (włoski), 15—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Oczami przyjaciół" polski), 14—15. „Film o miłości" (węgierski), 16—17. „Kaszebe" (polski), 18—19.

**Шудзялава**

„Pułapka" (polski), „Strachy zamku Spessart" (NRF), 15—19.

**Янаў**

„Motodrama" (polski), 15—19.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), 14—15. „Rezydent wywiadu" (radz.), 16—17. „Wezwanie" (polski), 18—19.

**Мельнік**

„Przeciw Wranglowi" (radz.), 14—15, „Tagebuch" (polski), 16—17. „Kłopotliwy gość" (polski), 18—19.

**Мілейчыцы**

„Ostatnie dni" (polski), 14—15. „Cyrk bez granic" (rumuński), 16—17. „Pożądanie zwane Anadą" (czeski), 18—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Pierścień ks. Anny" (polski), „Własne zdanie" (bułg.), 15—19.

**Новы Двор**

„Grzech Azizy" (ZRA), „Dziki i swobodny" (angl.), 15—19.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7315 E-3



 




## ЗАБЛУДАЎСКАЯ КАРУСЕЛЬ

Тэлеграма-маланка. Заблудаў. Неадкладна займіцеся справамі вышэйшых начальнікаў тутэйшага гэзсу. Каруселяць. Той, што пануе сёння, заўтра ціха сцэзае, і на гарызонце паяўляецца новая кіруючая асоба. Яна неўзабаве таксама адыходзіць у імглу.

Эстафета чараўнікоў. Кажуць, што і цяперашні прэзас збіраецца перадаць палачку. Абгрунтаванне вываду: выканчыў камяніцу ў Беластоку. Але гэта мною не праверана.

А віцэ-прэзас запіваецца ў гасподзе. І потым валіць кулакамі ў морды сваіх падуладных. І не зважае на месца. Б'е ў гасподзе, на вуліцы, і на службе. Галоўнае: псуе нервы працаўнікам. А працаўнікі заслужаныя, людскія і агульна шанаваныя. Ратуйце іх.

«МК»

Цэнтр АБС: Сапраўды, трэба мець выключныя нервы, каб спакойна выносіць капрызы буяністага шэфа. Здзіўляе толькі філасофская падкладка гэтых падначаленых: чаму яны з такім фаталізмам дазваляюць начальнікам кулакам гуляць па сваіх шляхетных фізіяноміях? Што, яны нейкія сектанты? Ці гадзіннікаў не пераставілі? І просім удакладніць: хто выбірае прэзасаў у Заблудаве?





— А я гавару: спачатку заедзем да краўчыхі!

### ПАЗЫЧЫЛА

— Для археолага сто год — гэта кароткі адрэзак часу.

— О Божа! А я ўчора пазычыла знаёмаму археолагу дзве тысячы злотых!






— Як вы мне надаелі, хочацца ўсё кінуць і ўцячы куды вочы глядзяць!

### Талаваломка




На першы погляд кактусы ў васьмі гаршках нічым не адрозніваюцца адзін ад другога. Аднак гэта не так. Толькі два зусім аднолькавыя. Якія?

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: Другі злева. З-за маленькага ўзросту ён падлажыў падушку на сядзенне.*

### НАВІНЫ СЛУХАЎ

Пытае жонка мужа:
— Дзе ты так доўга быў?
— Ды на кірмашу навіны слухаў.
— А што ж цікавага ты чуў?
— Ды ці ж за гэтым народам даступішся? Далёка стаяў, дык нічога і не пачуў.

### ЗРУЧНА

Аднойчы спыталі ў лайдака:
— Што лепей, есці або ляжаць?
— Лепей за ўсё есці лежачы, — адказаў той.

### ПОЗНА

— Уявіце сабе, таварыш, мой Вася выйграў сто тысяч злотых у таталізатары. І гэта праз тыдзень пасля вяселля.
— Бедны. Яму ніколі не шанцавала.

### ЗАГАДАЎ ЗАГАДКУ

Акуліст паказвае пацыенту табліцу з літарамі рознай велічыні.
— Вы зможаце прачытаць гэты радок?
— Не.
— А гэты?
— Таксама.
— Неверагодна! Няўжо цяжка адрозніць такія вялікія літары?
— Літары я адрозніваю, але не магу выгаварыць гэта слова.

— Да нас паступіла заява, што тут вы здзекуецеся з чалавека па прозвішчы Шапэн.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## ОЙ, У ЛУЗЕ

*Словы А. Дзержынскага*
*Музыка Р. Бутвілоўскага*

Ой, у лузе пад вярбой
Я з дзяўчынай маладой
Зоркі летнія лічыў,
Аб каханні гаварыў. (2 разы)

Ясну зорку прыкмячаў,
На дзяўчыну паглядаў:
— Ты, краса мая, вясна,
Пакахаў цябе здаўна. (2 разы)

Аб размове месяц знаў,
Ды нікому не казаў,
Што я з любай уначы
Зоркі летнія лічыў,
Ой, да ранку я лічыў,
Аб каханні гаварыў. (2 разы)







### У СУДЗЕ

Муж тлумачыць суддзі:
— Я вымушаны прасіць развод. Раней, калі я прыходзіў з працы, сабака вітаў мяне брэхам, а жонка прыносіла пантофлі. А цяпер усё наадварот.

### НЕ СКУПЫ

Малы Юрка сядзіць і есць цукеркі. Падыходзіць дзяўчынка і кажа:
— Дай і мне трошкі.
— Не дам.
— Ну і скупы ты!
— Не, я не скупы, але мне самому мала.

### ЯМУ НЕ ХОЧАЦЦА

— Ты ўчора быў у клубе?
— Не, мая жонка вырашыла, што мне не хочацца туды пайсці.

### ШТО ДАРАЖЭЙ?

Маладыя муж і жонка робяць у магазіне пакупкі. Жонка гаворыць:
— Трымай дзіця і дай сюды талеркі. У цябе заўсёды прывычка ўсё выпускаць з рук.

### ПЛЯМЕННІК

— Вы ведаеце, што мой пляменнік працуе ў вас?
— Вядома! У часе апошняга футбольнага матча ён адпрасіўся ў мяне на ваша пахаванне...

## Дзве лісы

— Сяброўка, дзе дастала футра ты такое? —
Спыталася Ліса ў Лісы. —
Скажы мне праўду, не хлусі,
Дзе мне набыць цаной любою?
Куплю адразу. Ты скажы,
Яно, напэўна, з-за мяжы?
Ах, прыгажосць якая!
Здзівілася Ліса другая:
— Ці ж у цябе не дарагое
Футра? Ну, скажы, не так?
Уласнае, сваё. Табе ж — давай чужое,
Цябе не зразумею я ніяк...
— Не, мне замежнае да твару,
Я з нараджэння аб ім мару,
І ўсё-такі яго дастану, —
Во будзе воку люба глянуць!
Праходу не дадуць нідзе:
«Ліса ў замежным вунь ідзе!»

Сярод людзей размовы чуў падобныя.
Такім скажы,
Што лапці з-за мяжы,
Яны ўздыхнуць і скажуць: «Вельмі модныя!»

*Яўген Крупенька*







### ВЁСКА ПЕРАСТАЛА КУРЫЦЬ

Жыхары французскай вёскі Салер, размешчанай у дэпартаменце Канталь, аднадушна вырашылі не курыць. І не толькі вырашылі, але ў сваім пісьме ўрачыста паведамілі пра гэта кіраўніку дзяржавы.

Прэзідэнт Францыі Ж. Пампіду адказаў на іх пісьмо. Горача адобрыўшы ініцыятыву салерцаў, ён, аднак, выказаў жаль, што сам не можа ўзяць з іх прыклад.

Як паведаміў журналістам мэр Салера, пераважная большасць былых курыльшчыкаў трымаецца даволі стойка, не паддаючыся спакусе зноў узяцца за цыгарэту. Але галоўнае, дадаў мэр, наша вёска, усё насельніцтва якой складае 250 чалавек, пераўтварылася ў адзін з цэнтраў французскага турызму.

Літаральна натоўпы паломнікаў рушылі з усіх канцоў краіны. Хто для таго, каб «пераняць мудрасць», а хто проста з цікавасці. Прыток турыстаў, якія пакідаюць у Салеры на вялікую радасць муніцыпальнага казначэя нябачаныя да гэтага часу для гэтай вёскі сумы грошай, адразу ж папраўляе фінансавыя справы.

### ЗА КУЛІСАМІ ІХ КУХНІ

У адной з газет, што выходзяць у Глазга, нядаўна была надрукавана такая аб'ява: «Вядомы артыст, які славуты тым, што галадае ўжо чатыры гады, тэрмінова шукае месца шэф-повара».

### СРОДАК ЭМАНСІПАЦЫІ

Галівудская прыгажуня Даларэс Харт у выніку «няшчаснага кахання» пайшла ў манастыр. Яна растлумачыла: «вечнае манашаства было і застанецца найвышэйшай праявай вызвалення жанчыны ад улады мужчыны».




Старыўшы для суседзяў сапраўднае пекла, паклёпнік жыў, як у раі.